№19 (304)
2011

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь



Адзін са здымкаў фотаакцыі салігорскіх праваабаронцаў, 10 сьнежня 2011 году.

## Дзень правоў чалавека – 2011

63-я гадавіна абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, што адзначалася 10 сьнежня Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, названая неардынарным для правоў чалавека годам.

"Гэты год быў не падобны да іншых з пункту гледжаньня абароны правоў чалавека. Ніколі раней праваабарончая дзейнасьць не была такой актуальнай і важнай. І, дзякуючы яднальнай і мабілізуючай сіле сацыяльных сетак, у змагароў за правы чалавека ператварыліся самыя звычайныя людзі.

Сёлета мільёны людзей вырашылі: прыйшоў час адстаяць свае правы. Яны выйшлі на вуліцы і запатрабавалі пераменаў. Многія выкарыстоўвалі Інтэрнэт і тэкставыя паведамленьні, каб інфармаваць, натхняць, мабілізоўваць сваіх аднадумцаў па адстойваньні асноўных правоў чалавека. Сацыяльныя сеткі дапамагалі актывістам арганізоўваць мірныя акцыі пратэсту ў гарадах усяго сьвету: ад Тунісу да Мадрыду, ад Каіру да Нью-Ёрку, нягледзячы на тое, што часам яны сутыкаліся з жорсткім прыгнётам," – гаворыцца ў пасланьні Арганізацыі.

Нагадаем, 10 сьнежня ў 1948 годзе Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў была прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. З таго часу ва ўсім сьвеце штогод 10 сьнежня адзначаецца Дзень правоў чалавека.

Няпросты гэты год у плане адстойваньня правоў чалавека ў Беларусі. Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі за апошні год значна пагоршылася. Такую ацэнку даюць прадстаўнікі, БХК ПЦ "Вясна" і "Міжнароднай амністыі" ў каментарах БелаПАН з нагоды 63-яй гадавіны прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

"Ніколі яшчэ ў Беларусі мы не сустракалі 10 сьнежня ў такой цяжкай сітуацыі, – заявіў старшыня РГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" (БХК) Алег Гулак. – Гэты год быў самым цяжкім у дачыненьні да правоў чалавека ў гісторыі сучаснай Беларусі і па колькасьці рэпрэсіяў, і па жорсткасьці прысудаў, прычым акцэнт рэпрэсіяў быў накіраваны ня толькі на палітычных актывістаў, але і на праваабаронцаў, адвакатаў".

Лідар БХК нагадаў, што пасьля прэзідэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году і жорсткага разгону шмат-

(Працяг на стар. 5)

*Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by*

# Алесь Бяляцкі – праваабаронца году!

13 сьнежня вядучыя праваабарончыя арганізацыі Беларусі ўручылі нацыянальную прэмію за выключныя дасягненьні ў галіне абароны правоў чалавека ў намінацыях "Праваабаронца году 2011", "Адвакат году 2011" і "Журналіст году 2011". Адвакатамі году абвешчаныя Марына Кавалеўская і Дар'я Ліпкіна, журналістамі году – майстры фота Юлія Дарашкевіч і Уладзь Грыдзін.

Узнагароду кіраўніку Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесю Бяляцкаму калегі перадалі яго жонцы Наталі. Прымаючы ўзнагароду, Наталя адзначыла, што апошнім часам ёй даводзіцца атрымліваць за Алеся шмат розных прэміяў, аднак сёньняшнюю, ад беларускіх калегаў, яна назвала нашмат каштоўнейшай за астатнія.



Гары Паганяйла перадае ўзнагароду жонцы Алеся БЯЛЯЦКАГА Наталі.

Нацыянальная прэмія ў галіне правоў чалавека – пераемніца прафесійнай прэміі, заснаванай "Праваабарончым альянсам". Сёлета намінантаў вызначалі прадстаўнікі васьмі беларускіх праваабарончых арганізацыяў, сярод якіх Дом правоў чалавека, ПЦ "Вясна", Беларускі Хельсінскі камітэт, Беларуская асацыяцыя журналістаў, Цэнтр прававой трансфармацыі, Камітэт абароны рэпрэсаваных "Салідарнасьць", Цэнтр правоў чалавека.

# Улады перайшлі ўсе магчымыя маральныя межы

## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна"

11 сьнежня 2011 г. у нядзельным выпуску праграмы "В центре внимания" на тэлеканале "Беларусь-1" быў прадэманстраваны правакацыйны сюжэт пра вязьняў сумленьня – былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саньнікава і лідара моладзевай арганізацыі Малады Фронт Зьмітра Дашкевіча.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што дэманстрацыя падобнага кшталту відэаматэрыялаў на дзяржаўным тэлеканале ў чарговы раз падкрэсьліла палітычную матывацыю іх перасьледу.

Прадэманстраваны сюжэт зьяўляецца адным са зьвёнаў ланцуга правакацыяў, арганізаваных сьпецслужбамі Беларусі ў дачыненьні да А. Саньнікава і Зм. Дашкевіча, галоўнай задачай якіх зьяўляецца аказаньне маральнага ціску, дыскрэдытацыя, стварэньне рэальных пагрозаў для іх жыцьця і здароўя падчас знаходжаньня ў месцах зьняволеньня.

Дадзены сюжэт сьведчыць, што ў арганізаванай кампаніі па цкаваньні А.Саньнікава, Зм. Дашкевіча, іхных родных улады Беларусі гатовыя перайсьці ўсе магчымыя маральныя межы. Дэманстрацыя падобнага відэаматэрыялу сьведчыць аб поўнай прафесійнай і чалавечай дэградацыі кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, кіраўніка тэлеканалу "Беларусь-1" і асобаў, якія рыхтавалі сюжэт да эфіру.

Беларускія ўлады, МУС, адміністрацыя папраўчых установаў, у якіх знаходзяцца А. Саньнікаў і Зм. Дашкевіч, нясуць непасрэдную і поўную адказнасьць за далейшы лёс, жыцьцё і здароўе асуджаных вязьняў.

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" ў чарговы раз заклікае ўлады Беларусі:**

– спыніць усялякія правакацыйныя дзеяньні ў дачыненьні да А. Саньнікава і Зм. Дашкевіча;

– неадкладна дапусьціць да асуджаных адвакатаў і блізкіх сваякоў;

– неадкладна і безумоўна вызваліць усіх вязьняў сумленьня і палітычных зьняволеных, якія дагэтуль знаходзяцца ў турмах Беларусі.

*Менск,*
*13 сьнежня 2011 г.*

## Сімвал салідарнасьці

**12 сьнежня ў Варшаве міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі ўручыў дыплом-узнагароду жонцы Бяляцкага Наталі Пінчук.**

**Як адзначыў кіраўнік польскай дыпламатыі, узнагарода Алесю Бяляцкаму – сімвал падтрымкі беларускай дэмакратычнай супольнасьці ды вылучэньне справядліваму чалавеку: "Мне хочацца, каб гэта ўзнагарода была сімвалам салідарнасьці Польшчы і сьвету са справядлівым чалавекам. Памятаю сказаныя Алесем словы: "Нашая краіна можа пайсьці шляхам дэмакратычных зьменаў або апынуцца ў стане няшчасьця і глыбокага эканамічнага крызісу". Цяпер кажу з упэўненасьцю, што ў Беларусі могуць адбыцца зьмены. Беларусы выказалі сваю волю год таму на Кастрычніцкай плошчы ў Менску, калі дэманстравалі супраць сфальсіфікаваных вынікаў выбараў. Я спадзяюся, што мужнасьць Алеся Бяляцкага ня будзе марнай".**

**Ад імя свайго мужа ўзнагароду з рук Сікорскага атрымала Наталя Пінчук, якая выказала словы падзякі за прызнаньне і падтрымку: "Гэты дыплом – знак павагі да Алеся, знак прызнаньня яго значнага ўнёску ў справу разьвіцьця праваабарончага руху і абароны правоў чалавека. Я б хацела выказаць словы падзякі Міністэрству замежных спраў і ўсяму польскаму народу за тую прэмію, якую прысудзілі майму мужу".**

## Ёган БІР:

# Гэты год быў жахлівы для свабоды слова ў Беларусі

***Кіраўнік бюро Еўропы і краінаў былога Савецкага Саюзу арганізацыі "Рэпарцёры бяз межаў" (Reporteurs Sans Frontières) Ёган Бір (Johann Bihr) распавёў сайту БАЖ пра новыя падыходы пры складаньні Сусьветнага індэксу свабоды прэсы (Worldwide Press Freedom Index), а таксама даў папярэднюю ацэнку стану свабоды слова ў Беларусі ў 2011 годзе.***


Ёган БІР.

***– Раней RSF публікавала Сусьветны індэкс свабоды прэсы ў кастрычніку, у гэтым годзе грамадзкасьць пакуль не пабачыла гэтай справаздачы. З чым гэта зьвязана?***

– Так, мы прадстаўлялі Індэкс свабоды прэсы ў кастрычніку, у гэтым жа годзе вырашана публікаваць яго ў студзені. У першую чаргу гэта зроблена для больш лёгкага ўспрыманьня. Папярэднія справаздачы ахоплівалі перыяд з верасьня мінулага году па верасень бягучага. Індэкс-2011 будзе распаўсюджвацца менавіта на цэлы 2011 год.

Акрамя таго, мы вырашылі публікаваць Карту свабоды слова адначасова з Індэксам – раней была разьбежка ў 2–3 месяцы. Цяпер, на наш погляд, дадзеныя Карты і Індэксу будуць зручней для ўспрыманьня і інтэрпрэтацыі.

Зьмены закранулі і самае галоўнае – апытальнік, на падставе якога і рыхтуецца Індэкс. Цяпер анкета больш дэталізаваная. Так, роўная ўвага нададзена як негатыўным, так і пазітыўным фактарам. Гэта значыць, што пытаньні будуць датычыцца ня толькі колькасьці забітых, параненых, асуджаных журналістаў, але і, напрыклад, заканадаўчай абароны крыніцаў інфармацыі і г. д.

Асабліва адзначу праблему кіберцэнзуры. Мяркую, што гэта цяпер найбольш небясьпечная рэч для свабоды слова ў Беларусі, Расіі, іншых краінах былога СССР, дзе традыцыйныя СМІ практычна цалкам знаходзяцца пад кантролем уладаў, а непадцэнзурная інфармацыя пайшла ў сеціва.

Нагадаю, што ў Беларусі падчас нейкіх значных падзеяў, акцыяў блакуецца доступ да незалежных рэсурсаў, нядаўна гэтае ж мы назіралі падчас парламенцкіх выбараў у Расіі. Прынятыя жорсткія меры кіберцэнзуры ў рэспубліках Цэнтральнай Азіі. "Рэпарцёры бяз межаў" ужо некалькі гадоў публікуюць асобны даклад па праблеме кіберцэнзуры ў сакавіку, але з гэтага году дадаткова надамо ўвагу свабодзе слова ў сеціве праз Індэкс.

***– Якім, на Вашую думку, быў 2011 год для свабоды прэсы ў Беларусі?***

– Яшчэ рана падводзіць вынікі, бо цяпер мы яшчэ апрацоўваем дадзеныя. Але я ўжо магу заявіць, што 2011 год быў жахлівы для свабоды слова ў Беларусі. Вядома, сітуацыя са свабодай слова даўно тут была вельмі цяжкай, мы назіраем паўсюдную цэнзуру, узмацненьне ціску на незалежную прэсу, якой і так няшмат у краіне. Але пачынаючы з 19 сьнежня 2010 году можна казаць пра вельмі жорсткія рэпрэсіі. Арышты журналістаў, блогераў, суды, вымушаная эміграцыя рэдактара "Хартыі'97" Наталі Радзінай, крымінальная справа супраць Андрэя Пачобута і забарона на выезд з краіны пасьля прысуду, пасягальніцтвы на "Нашу Ніву" і "Народную волю"... Так што сітуацыю мы расцэньваем як вельмі і вельмі складаную для тых журналістаў, якія працуюць у краіне.

Можна сказаць, што ў гэтым годзе кожная значная падзея станавілася падставай для ўзмацненьня рэпрэсіяў. Напрыклад, маўклівыя акцыі пратэсту, калі вельмі шмат журналістаў затрымлівалася, папярэджаньне "Нашай Ніве" пасьля выбуху ў менскім метро…

У рэшце рэшт, у 2011-м у Беларусь прыйшоў эканамічны крызіс. Вельмі моцны крызіс – і гэта зноў стала падставай дзеля істэрыі з боку ўладаў, якія абвінавацілі журналістаў і блогераў у ачарненьні рэчаіснасьці. Беларусь была на 154-м месцы са 178-і магчымых у апошнім Індэксе свабоды прэсы. Без сумневу, у гэтым годзе месца будзе значна ніжэй. Можна ўпэўнена казаць пра пагаршэньне сітуацыі са свабодай слова, і ня толькі слова.

***– Як "Рэпарцёры бяз межаў" дзейнічаюць у сітуацыях з парушэньнямі свабоды прэсы ў той ці іншай краіне?***

– Мы працуем у трох напрамках. Ёсьць праца, якую ведаюць усе – справаздачы, індэксы, заявы. Але ёсьць і лабіяваньне, калі мы наўпрост зьвяртаемся да ўрадаў, у міжнародныя інстанцыі, у Савет па правах чалавека ААН, у Брусэлі ў нас ёсьць адмысловы прадстаўнік, які ўвесь час сустракаецца з дэпутатамі Еўрапейскага парламенту, кіраўнікамі камісіяў.

Ёсьць яшчэ адзін напрамак – дапамога журналістам у бядзе. На мой погляд, гэта вельмі важны аспект нашай працы, хоць і не самы вядомы – звычайна мы пра яго не гаворым і не публікуем сьпісы тых, каму аказваецца дапамога. Гэта журналісты, якія, напрыклад, падвергліся нападам. RSF наўпрост дапамагае фінансамі для аплаты лячэньня, плацім за паслугі адваката, калі супраць журналіста вядзецца працэс. Бываюць выпадкі, калі мы дапамагаем не журналісту, а яго сям'і, калі журналіст ці блогер знаходзіцца ў турме або загінуў, а ягоныя блізкія застаюцца без сродкаў для існаваньня. Гэта невялікія сумы, але гэта прамая дапамога.

Беларусь цяпер, мабыць, тая дзяржава, з якой можна размаўляць толькі праз гандаль – крэдыты ў абмен на вызваленьне апанентаў. Гандаль – гучыць жудасна, вядома. Але гэта, на жаль, рэальнасьць. Перамовы – за еўрадэпутатамі, палітыкамі, але "Рэпарцёры бяз межаў" не застаюцца ў баку ад працэсу.

**Паводле прэс-службы "БАЖ"**

# "НЕ" сьмяротнаму пакараньню...

## 165 тысячаў петыцыяў за адмену сьмяротнага пакараньня ў Беларусі адпраўленыя ў Адміністрацыю прэзідэнта па пошце

"Міжнародная амністыя" патрабуе ад Аляксандра Лукашэнкі ўвесьці мараторый на сьмяротнае пакараньне. Пра гэта заявіла 9 сьнежня на адмысловай прэс-канферэнцыі дасьледчык гэтай арганізацыі Хэза Макгіл.

"У сусьветнай кампаніі па ўвядзеньні мараторыю ўдзельнічалі самыя розныя людзі, – адзначыла Макгіл. – Усе яны падпісалі падрыхтаваныя "Міжнароднай амністыяй" звароты да прэзідэнта А. Лукашэнкі аб мараторыі на прымяненьне сьмяротнай кары ў Беларусі".

Сьмяротнае пакараньне ў тым выглядзе, у якім яно рэалізуецца ў Беларусі, ня толькі парушае права на жыцьцё, але таксама прызнанае камітэтам па правах чалавека ААН катаваньнем для сваякоў асуджаных. "У прыватнасьці, сваякам не выдаюць цела, не паведамляюць месца пахаваньня і вельмі позна паведамляюць аб прывядзеньні прысуду ў выкананьне", – канстатавала Макгіл.

Паводле яе словаў, нідзе ў сьвеце не існуе судовай сістэмы, якая была б застрахаваная ад памылкі.

"Ёсьць небясьпека, што асуджаныя да сьмерці Канавалаў і Кавалёў не зьяўляюцца сапраўды вінаватымі. Гэта мы бачылі і падчас судовага працэсу над імі, калі нават пацярпелыя сумняваліся ў іх віне. Таму мы просім Аляксандра Лукашэнку памілаваць асуджаных і ўвесьці мараторый на сьмяротнае пакараньне ў Беларусі", – заявіла прадстаўнік "Міжнароднай амністыі".



Падчас прэс-канферэнцыі.

На прэс-канферэнцыі таксама выступілі старшыня Беларускага Хельсінскага камітэту Алег Гулак, намесьнік старшыні праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч, маці расстралянага Андрэя Жука Сьвятлана і маці асуджанага да сьмяротнага пакараньня Уладзіслава Кавалёва Любоў.

Каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня" Андрэй Палуда паведаміў пра захады праваабаронцаў па ўвядзеньні мараторыю на гэты від пакараньня, а таксама пра зьмены грамадзкай думкі пасьля апошніх сьмяротных прысудаў у Беларусі. Як адзначыў Андрэй Палуда, "справа Дзьмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва ўзрушыла грамадзкае меркаваньне і ў нашай краіне, прадэманстраваўшы, што ўсё больш беларусаў выступаюць супраць сьмяротнай кары". Са свайго боку праваабаронцы цяпер рыхтуюць зварот у Міжнародны камітэт правоў чалавека, каб прыпыніць выкананьне выраку асуджаным за выбух у менскім метро. "Праўда, мы ўжо маем сумны досьвед, калі ў парушэньне ўсіх нормаў міжнароднага права ўлады Беларусі прыводзілі ў выкананьне сьмяротны вырак. Гэтак, сёлета расстралялі жыхароў Гародні Андрэя Бурдыку і Алега Грышкаўца", – нагадаў Андрэй Палуда.

Адразу пасьля канферэнцыі, Хэза Макгіл разам з беларускімі праваабаронцамі спрабавала перадаць у Адміністрацыю прэзідэнта 165 тысячаў петыцыяў з 30 краінаў з патрабаваньнем увесьці ў Беларусі мараторый на сьмяротнае пакараньне. Аднак групу беларускіх праваабаронцаў, якія прынесьлі ў адміністрацыю прэзідэнта 10 скрыняў з подпісамі грамадзянаў пасьля перамоваў супрацоўнікі прыёмнай Прэзідэнта адправілі на пошту. Усе петыцыі былі запакаваныя і адпраўленыя на адрас Адміністрацыі. Ахоўнікі адміністрацыі праверылі дакументы ў журналістаў і забаранілі рабіць здымкі і відэа, на якіх бы аказаўся будынак адміністрацыі. За тым, што адбываецца, у тым ліку і ў Галоўпаштамце, сачыла міліцэйскае кіраўніцтва – начальнік ГУУС Менгарвыканкаму Аляксандр Барсукоў і намесьнік начальніка міліцыі бясьпекі Максім Грышчанка.



# Дзень правоў чалавека – 2011

(Пачатак на стар. 1)

тысячнага апазіцыйнага мітынгу на плошчы Незалежнасьці ў Менску крымінальныя справы аб масавых беспарадках былі распачатыя ў дачыненьні да большасьці кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Многія адвакаты, якія абаранялі іх, потым былі пазбаўленыя ліцэнзіі на адвакацкую дзейнасьць. У офісах праваабарончых арганізацыяў неаднаразова праводзіліся вобшукі, а лідар зачыненага ўладамі праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, 24 лістапада быў пакараны чатырма з паловай гадамі зьняволеньня па абвінавачаньні ў крадзяжы ў асабліва буйным памеры. Сапраўднай прычынай крымінальнага перасьледу стала ягоная шматгадовая праваабарончая дзейнасьць, перакананыя яго калегі.

Намесьнік старшыні праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч назваў адыходзячы год цяжкім як для праваабаронцаў, так і для ўсяго беларускага грамадзтва. "Мы назіраем рэзкае пагаршэньне сітуацыі з правамі чалавека ў краіне. Я б нават сказаў, горш было толькі ў выпадках гвалтоўных зьнікненьняў апанентаў беларускай улады ў 1999 годзе", – мяркуе Стэфановіч. Паводле ягоных словаў, "такой колькасьці палітычна матываваных крымінальных спраў у Беларусі не назіралася апошнія гадоў пятнаццаць".

Акрамя таго, адзначыў праваабаронца, у 2011 годзе "вельмі выразна" праявіліся ўсе праблемы беларускага правасуддзя. "Гэта датычыцца ня толькі палітычна матываваных працэсаў, а і працэсу "менскіх тэрарыстаў" Кавалёва і Канавалава, які выклікаў масавы недавер і да судовай сістэмы Беларусі, і да сістэмы сьледзтва, – сказаў Стэфановіч. – Большасьць беларусаў ня верацЬ у тое, што тэракт у метро мог ажыцьцявіць адзіночка з сярэдняй адукацыяй. Мне здаецца, гэта – квінтэсенцыя недаверу да ўсёй сьледчай і судовай сістэмы Беларусі, і да дзейнасьці праваахоўных органаў у прынцыпе".

Эксперт аўтарытэтнай праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя" Хэза Макгіл у каментары БелаПАН заявіла: "У Беларусі вельмі сур'ёзна парушаюцца правы чалавека. Гэта датычыцца правоў на свабоду сходу, на свабоду меркаваньняў, а таксама на праваабарончую дзейнасьць: ніводная з праваабарончых арганізацыяў у апошнія гады не была зарэгістраваная. Пры гэтым праваабаронцы і іншыя грамадзяне могуць зьведаць крымінальны перасьлед за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі".

Дзень правоў чалавека беларускія праваабаронцы імкнуліся шырока адзначыць, найперш скарыстоўваючы публічныя акцыі, каб павіншаваць людзей са сьвятам і праінфармаваць іх пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Аднак дзяржава ў чарговы раз стварыла перашкоды ў тым, каб людзі свабодна выяўлялі свае думкі і меркаваньні. У шматлікіх гарадах і населеных пунктах Беларусі былі пададзеныя заяўкі на правядзеньне ў гэты дзень пікетаў. Аднак ніводнага дазволу атрымана не было.

Напрыклад, у Віцебску адразу былі забароненыя некалькі пікетаў. Заяўку на пікет, прымеркаваны да ўгодкаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, падаваў праваабаронца Леанід Сьвецік. Адмова прыйшла ад кіраўніка Чыгуначнай раённай адміністрацыі Юрыя Панфілава, нядаўна прызначанага на гэтую пасаду. І гэта ўжо другая забарона на пікет 10 сьнежня, вынесеная спадаром Панфілавым.Тым ня менш, праваабаронцы скарысталіся сваім канстытуцыйным правам і выйшлі на вуліцы гарадоў.

Актывісты праваабарончага цэнтру "Вясна" ў цэнтры Менску правялі акцыю з нагоды Міжнароднага Дня правоў чалавека. Яны віншавалі менчукоў з гэтым днём, а таксама раздавалі тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", улёткі кампаніі "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня ў Беларусі", а таксама налепкі "Скажы НЕ сьмяротнаму пакараньню". Большасьць мінакоў ахвотна разьбіралі друкаваныя матэрыялы і пазітыўна рэагавалі на віншаваньні. Гэткім чынам за кароткі час разышліся некалькі сотняў буклетаў і ўлётак.

У Берасьці праваабаронцы і актывісты апазіцыйных партыяў 10 сьнежня на трох рынках гораду распаўсюдзілі больш за 500 асобнікаў інфармацыйных матэрыялаў, прысьвечаных праваабарончай тэматыцы: тэкст прынятай ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, бюлетэнь "Брэсцкае права", а таксама сьпецыяльныя выпускі Беларускага Хельсінскага камітэту "Як правільна паводзіць сябе з людзьмі ў пагонах" і "Што неабходна памятаць пры ўдзеле ў мірнай акцыі". Як паведаміў прадстаўнік РПГА "Беларускі Хельсінскі камітэт" па Берасьцейскай вобласьці Ігар Маслоўскі, людзі вельмі прыхільна ставіліся да акцыі і цікавіліся інфармацыйнымі матэрыяламі.

У Дзень правоў чалавека на Гарадзенскіх рынках і ў самім горадзе праваабаронцы раздавалі людзям кніжачкі з тэкстам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама матэрыялы за адмену сьмяротнага пакараньня, бюлетэні з апісаньнем сітуацыі з палітвязьнямі ў Беларусі і прысудам кіраўніку Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Алесю Бяляцкаму. Людзі з зацікаўленасьцю бралі матэрыялы, задавалі пытаньні. Праваабаронцы таксама яшчэ раз нагадалі гарадзенцам пра збор подпісаў за адмену сьмяротнага пакараньня і петыцыю за вызваленьне Алеся Бяляцкага.

Нягледзячы на афіцыйную забарону ў правядзеньні пікету, маладзечанскі праваабаронца Эдуард Баланчук усё ж адзначыў Дзень правоў чалавека. У самым шматлюдным месцы гораду, на Цэнтральнай плошчы, Эдуард распавёў мінакам пра сьвята і раздаў тэматычную літаратуру. Людзі ўспрымалі гэта добразычліва, выказвалі падзяку, некаторыя казалі, што вельмі паважаюць Эдуарда і такіх як ён. Мерапрыемства не абышлося і без супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Міліцыянты праверылі дакументы і прагледзелі брашуры па правах чалавека, якія раздаваў Эдуард. Відавочна, ніякай крамолы адразу яны не ўгледзелі, таму адышлі, каб параіцца з начальствам. Эдуард тым часам раздаў усе матэрыялы і зайшоў у суседнюю кавярню, з акна якой назіраў за міліцыянтамі, якія пасьля тэлефонных кансультацыяў вярнуліся па праваабаронцу і доўга хадзілі па плошчы і азіраліся. Але ўсё абышлося, праз некаторы час Эдуард спакойна сышоў.

Салігорскія праваабаронцы сумесна з сайтам saligorsk.org зладзілі фотаакцыю, прысьвечаную Дню правоў чалавека. Арганізатары вырашылі візуалізаваць вытрымкі з Усеагульнавй дэкларацыі правоў чалавека. Ідэю падтрымалі жыхары гораду, вядомыя сваімі дэмакратычнымі поглядамі. Яны сфатаграфаваліся з плакатамі, на якіх былі зьмешчаныя ўрыўкі з Дэкларацыі.

# Каму забаронены ўезд у Сінявокую?

Кожная краіна клапоціцца аб тым, каб на яе тэрыторыю не траплялі асобы, якія могуць быць небясьпечныя для грамадзянаў з-за крымінальнай ці іншай супрацьпраўнай дзейнасьці, альбо за парушэньне міграцыйнага заканадаўства, тыя, хто некалі ўчыніў злачынства і спрабуе патрапіць у краіну ізноў. Звычайная і неабходная практыка. Аднак з кожным годам ў Беларусі ўсё большую частку "персонаў non grata" складаюць не тэрарысты і злачынцы, а тыя, хто крытыкуе існуючы рэжым, альбо можа данесьці іншаму сьвету дакладную інфармацыю пра становішча з правамі чалавека ў нашай краіне. Гэтая тэндэнцыя вельмі выразна праявілася цягам апошняга году, калі праз створаную ўладамі жалезную ўаслону ў Беларусь не змаглі патрапіць сотні грамадзкіх дзеячаў, палітыкаў, журналістаў і праваабаронцаў з розных краінаў сьвету.

Найбольш мэтанакіравана і пасьлядоўна супрацоўнікі памежнай службы і МУС распраўляліся з прадстаўнікамі Міжнароднай назіральнай місіі Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. На працягу 2011 году было беспадстаўна адмоўлена ў перасячэньні мяжы украінскім праваабаронцам Максіму Кіцуку (9 сакавіка), Марыне Цапок (20 красавіка), сябру Грамадзкай рады пры Міністэрстве ўнутраных спраў Украіны Міхаілу Каменеву (21 красавіка), праваабаронцу Уладзіміру Сянько (30 верасьня).

Пры перасячэньні украінска-беларускай мяжы іх здымалі з цягнікоў і паведамлялі аб тым, што іх прозвішчы занесеныя ў базу дадзеных Памежнай службы з пазнакай "Уезд забаронены".

Сяброў Міжнароднай назіральнай місіі з Расіі прымусова дэпартавалі з Беларусі і падчас іх знаходжаньня на тэрыторыі Беларусі. Так, 18 сакавіка кіраўнік Міжнароднай назіральнай місіі Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі Андрэй Юраў па патрабаваньні беларускіх праваахоўных органаў пакінуў Беларусь. Яму паведамілі пры гэтым, што ён "знаходзіцца ў спісах неўязных у Беларусь". 29 красавіка з Беларусі быў дэпартаваны іншы расейскі праваабаронца Іван Кандраценка. 7 траўня грамадзянкі Расіі Любоў Захарава, Ірына Пайкачова і Кацярына Карасьцялёва атрымалі прадпісаньні пакінуць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь на працягу 24-х гадзінаў у сувязі з унясеньнем іх у сьпіс асобаў, уезд на тэрыторыю рэспублікі якіх забаронены або непажаданы. На 2 гады быў забаронены ўезд у Беларусь праваабаронцам з Расіі Аляксандру Мнацакяну і Вікторыі Громавай. Яны былі дэпартаваныя 4 траўня.

Увогуле, для праваабаронцаў з іншых краінаў Беларусь, падобна, становіцца краінай за сямю пячаткамі. І выпадкаў іх дэпартацыі з кожным годам становіцца ўсё болей і болей. Напрыклад, праваабаронцы з Нарвежскага хельсінскага камітэту 15 чэрвеня апоўначы былі затрыманыя ў Менскім аэрапорце. Грамадзянка Расіі Іна Сангажыева і грамадзянка Украіны Вольга Шамшур накіроўваліся з Франкфурту ў Менск па асабістых справах. Аднак памежнікі знайшлі іх прозьвішчы ў сьпісе непажаданых для ўезду ў краіну асобаў. У пашпарты праваабаронцам былі пастаўленыя пячаткі "Уезд забаронены".

Найбольш выразна "негалосная" забарона на ўезд у Беларусь для замежных праваабаронцаў выявілася падчас крымінальнага суду над старшынём Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесем Бяляцкім. Беларуская амбасада ў Парыжы адмовілася выдаць візу ў Беларусь прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Сухайр Белхасэн, спаслаўшыся на непажаданасьць яе прысутнасьці ў Менску. Персонамі non grata для беларускіх уладаў сталі таксама кіраўнік праграмаў праваабарончай арганізацыі "Civil Right Defenders" са Швецыі Мары Менсан, праваабаронцы з Нарвегіі Ане Бондэ і Дайвэ Петкевічутэ, якія прадстаўляюць Фонд Дамоў правоў чалавека. Беларуская амбасада таксама адмовіла ў выдачы візы прадстаўніцы Нарвежскага Хельсінскага камітэту Бэрыт Ліндэман. Прытым напярэдадні ёй паведамілі па тэлефоне, што віза гатовая і яе можна забраць у любы час. Акрамя гэтага, адмовы атрымалі праваабаронцы Марыяна Роча з Partnership for Human Rights (Бельгія) і Рэйчэл Дэнбер з арганізацыі Human Rights Watch.

Наступная "непажаданая" для ўладаў Беларусі катэгорыя – замежныя палітыкі і афіцыйныя асобы. Многія з іх увогуле ня могуць патрапіць на тэрыторыю Беларусі па прычыне адмоваў у атрыманьні візаў ад консульскіх службаў Беларусі. Дэпутату шведзкага парламенту Крысьціяну Хольму адмовілі ў беларускай візе 3 сакавіка. Ён прадстаўляе Умераную кааліцыйную партыю Швецыі.

Старшыня сьпецыяльнай рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ па Беларусі Ута Цапф не змагла патрапіць на судовы працэс над экс-кандыдатам у прэзідэнты Мікалаем Статкевічам. 10 траўня яна даведалася пра адмову ў атрыманьні беларускай візы.

Мэру літоўскай сталіцы Артурасу Зуокасу адмовілі ў візе пасьля яго сустрэчы з беларускай апазіцыяй. Яшчэ сёлета ўвесну мэр літоўскай сталіцы хацеў наведаць Астравец, дзе будуецца беларуская АЭС. Туды яго запрасіў кіраўнік Астравецкага раёну Адам Кавалько. У беларускай амбасадзе Зуокасу не далі ні дзелавую, ні турыстычную візу. Нагадаем, што 21 кастрычніка віленскі мэр сустрэўся з лідарамі беларускай апазіцыі і жонкамі палітзьняволеных.

Нават пры наяўнасьці беларускай візы грамадзянаў замежных краінаў спыняюць пры перасячэньні мяжы. Так, 14 жніўня не пусьцілі ў Беларусь старшыню аб’яднаньня "Wspólnota Polska" Лонгіна Камалоўскага, а 15 жніўня польскага дэпутата Еўрапарламенту Марэка Мігальскага зьнялі з цягніка і адправілі назад у Польшчу.

23 траўня на польска-беларускай мяжы старшыні ўправы "Радыё Рацыя", галоўнаму рэдактару Тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва", сябру Кансультацыйнай Рады па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Польшчы Яўгену Вапу без тлумачэньня прычынаў анулявалі службовую візу ды паставілі пячатку з забаронай на ўезд. Усе запыты ў Міністэрства замежных спраў Беларусі аб прычынах такога рашэньня засталіся без канкрэтных адказаў.

11 верасьня Амбасада Беларусі ў Швецыі анулявала візы чатыром удзельнікам дэлегацыі шведзкіх прафсаюзаў, якія меліся наведаць Берасьцейкую вобласьць па запрашэньні беларускіх калегаў.

Традыцыйна ў сьпіс "небясьпечных" асобаў траплялі замежныя журналісты і пісьменьнікі, якія спрабавалі атрымаць ін-

фармацыю з першых вуснаў. Карэспандэнт расейскага тэлеканалу "Дождж" Радыён Марынічаў 29 траўня сустракаўся з беларускімі паэтамі, 30 траўня раніцай – з экс-кандыдатам у прэзідэнты Віталём Рымашэўскім, потым з журналісткай Ірынай Халіп. 31 траўня журналісту паведамілі, што ён занесены ў сьпісы і мусіць пакінуць Беларусь неадкладна.

Журналіста "Маскоўскага камсамольца" Ігара Кармазіна, які прыехаў у Беларусь для падрыхтоўкі рэпартажу пра апазіцыю, дэпартавалі з краіны ў ноч на 26 кастрычніка.

У ноч на 5 сьнежня ў аэрапорце Мінск-2 прадстаўнікам нарвежскага ПЭН-Цэнтру (генеральны сакратар Карл Мортан Іверсан, сябра Праўленьня Уільям Нюгард і выдавец Трыгве Ослюнд) і дацкага ПЭН-цэнтру (сябра Праўленьня і журналіст Нільс-Івар Ларсан) адмовілі ў візах і дэпартавалі на радзіму.

Сярод дэпартаваных замежнікаў – валанцёры замежных дабрачынных арганізацыяў. Напрыклад, Магдалена Каліноўска пакінула Беларусь 16 лістапада. На наступны дзень была дэпартаваная яе калега Кінга Ксёнджэк. Зьяўляючыся супрацоўніцамі фонду "Institutum Orientalium", яны займалася пошукам людзей для навучаньня ў Польшчы ў галіне вядзеньня турыстычнага бізнесу, а таксама бізнесу, зьвязанага з сельскай гаспадаркай і транспартам.

За ўдзел у антыядзерным пікеце грамадзяне Германіі і Польшчы Юліана Грынец, Андрэас Шэлхас, Яніна Ролік, Гвіда Хансен, Ян Хендрык Кроп, Катрын Хайнрых і Дарота Кубашэўска па рашэньні суда 28 красавіка былі дэпартаваныя з Беларусі.

Нават вядомыя і аўтарытэтныя беларусы, якія стала жывуць за мяжой, уяўляюць пэўную небясьпеку для ўладаў і адпаведна трапляюць у негалосныя сьпісы. Сябра Рады па сувязях з беларусамі замежжа пры Міністэрстве культуры Беларусі, які жыве ў Літве Хведар Нюнька 1 чэрвеня даведаўся пра адмову ў атрыманьні візы. Гэтаксама завершылася спроба наведаць радзіму для найстарэйшай супрацоўніцы радыё "Свабода" Галіны Руднік, якой адмовілі ў беларускай візе 9 лістапада.

Прыведзеныя вышэй факты яскрава сьведчаць пра намер беларускіх уладаў схаваць праўду пра сумныя рэаліі з правамі чалавека і абмежаваць уплыў аўтарытэтных міжнародных дзеячаў на беларускае грамадзтва.

# Суд за Народны сход скончыўся штрафамі

8 сьнежня ў Кастрычніцкім райсудзе разглядаліся адміністрацыйныя справы Тацяны Севярынец і Ірыны Яскевіч. Іх вінавацяць у тым, што яны парушылі закон аб масавых мерапрыемствах, калі праводзілі Народны сход у Віцебску 8 кастрычніка. Суд не стаў на бок Ірыны Яскевіч і Тацяны Севярынец, якія тлумачылі, што праводзілі менавіта мясцовы сход, на які не патрэбны дазвол уладаў. Суддзя Іна Грабоўская падтрымала меркаваньне супрацоўнікаў міліцыі, якія склалі на актывістак пратаколы за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі.

Дарэчы, аўтараў пратаколаў – супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС – суддзя катэгарычна адмовілася выклікаць у якасьці сьведак.

"Я хадайнічала аб гэтым цэлых пяць разоў. Бо мне трэба было задаць пытаньне, чым кіраваліся людзі, якія не былі на імпрэзе, але завочна вырашылі, што гэта была несанкцыянаваная масавая акцыя. Але спадарыня Грабоўская кожнага разу мне адказвала, апелююча да таго, што 5 сьнежня ў судзе ўжо выступалі прадстаўнікі міліцыі, выкліканыя раней", – распавяла Ірына Яскевіч.

На яе думку, суддзя відавочна сьпяшалася завяршыць судовы працэс, а таму ігнаравала інтарэсы падсудных актывістак. Калі праваабаронца Павел Левінаў зрабіў ёй уголас некалькі заўвагаў, спадарыня Грабоўская выдаліла яго з судовай залі.

Тацяна Севярынец, падкрэсьліўшы, што суду перададзеныя ўсе дакументы пра падрыхтоўку сходу, рэзалюцыя, якую прынялі прысутныя, а таксама фотаматэрыялы з інтэрнэту, прасіла суд быць аб'ектыўным: "Раз мы праводзілі менавіта сход, што пацьвердзілі ўсе сьведкі, нават супрацоўнікі міліцыі, то няхай бы нашую справу разглядалі з пункту гледжаньня закону пра мясцовыя і рэспубліканскія сходы. Менавіта ім мы і кіраваліся. І калі што парушылі, то гатовыя несьці адказнасьць. Але ж суддзя Іна Грабоўская сьцьвярджала, што мы парушалі закон аб масавых мерапрыемствах, нібыта правёўшы "народны" сход, а не "мясцовы".

Суддзя Іна Грабоўская прысудзіла Ірыне Яскевіч штраф памерам 22 базавыя велічыні, або 770 тысячаў рублёў, а Тацяне Севярынец, з улікам таго, што прыцягваецца да адказнасьці за падобнае правапарушэньне ўжо паўторна, штраф быў прысуджаны большы – 25 базавых велічыняў, або 875 тысячаў рублёў.

14 сьнежня Тацяна Севярынец разам са сваёй паплечніцай па правядзеньні Народнага Сходу Ірынай Яскевіч падала скаргу ў Віцебскі абласны суд на рашэньне Кастрычніцкага суда Віцебску.



Тацяна СЕВЯРЫНЕЦ і Ірына ЯСКЕВІЧ.

# Локшына – сімвал падману...

## За акцыю, скіраваную супраць хлусьні на Беларускім тэлебачаньні – штраф 1 мільён 50 тысячаў і паўмільёна – за неданясеньне на сяброў

3 сьнежня трое маладых людзей вывалілі вядро варанай локшыны на ганак Белтэлерадыёкампаніі, што месьціцца на вуліцы Макаёнка, 9. Раскідалі яны і ўлёткі ад імя беларускіх нацыянал-бальшавікоў з вытрымкамі з "Міжнародных прынцыпаў прафесійнай этыкі журналіста", прынятых у Парыжы 20 лістапада 1983 году: "Найпершая задача журналіста – гарантаваць людзям атрыманьне праўдзівай і дакладнай інфармацыі..."

"Беларускае тэлебачаньне заўсёды славілася адкрыта заказнымі, палітычна ангажаванымі рэпартажамі, што выклікаюць то сьмех, то зьдзіўленьне. Няўмелы рэбрэндынг назваў тэлеканалаў не зьмяніў іх сутнасьці. Пасьля зьмены шыльды БТ так і засталося сферычным тэлебачаньнем у вакууме", – гаварылася ва ўлётках.

"Гэта быў такі сімвалічны акт. Локшына ж – сімвал хлусьні. Мы хацелі паказаць сёньняшні стан нашых дзяржаўных СМІ, што там няма аб'ектыўных меркаваньняў, розных пунктаў гледжаньня, калі штосьці асьвятляюць, то вельмі аднабакова", – распавёў адзін з арганізатараў аргкамітэту па стварэньні нацыянал-бальшавіцкай партыі Дзьмітры Сіняк.

Акцыя скончылася без затрыманьняў. А 6 сьнежня раніцай былі затрыманыя два актывісты аргкамітэту па стварэньні нацыянал-бальшавіцкай партыі – Яўген Контуш і Уладзіслаў Лобаў. Да хлопцаў а 7-й раніцы прыйшлі міліцыянты і прымусілі ехаць ў Першамайскае РУУС для разьбіральніцтва.

У Першамайскім РУУС на Уладзіслава Лобава склалі пратакол за дробнае хуліганства і накіравалі ў Інспекцыю па справах непаўналетніх Маскоўскага раёну, па месцы жыхарства, якая і будзе далей прымаць рашэньне. Што да фармулёўкі, Юры Якубоўскі распавёў: "За абліваньне варанай макаронай будынку Белтэлерадыёкампаніі".

Другога ўдзельніка акцыі па раскідваньні локшыны на прыступках Белтэлерадыёкампаніі Яўгена Контуша пратрымалі ў Першамайскім РУУС больш за сем гадзінаў і ўжо пад вечар павезьлі ў суд, склаўшы пратакол па артыкуле 17.1 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях – "Дробнае хуліганства". Але працоўны дзень у суддзі скончаўся, таму Яўгена а палове на шостую вечара адпусьцілі і перанесьлі судовае паседжаньне на 8 сьнежня.



Яўген КОНТУШ.

На судовым паседжаньні 8 сьнежня міліцыянт Уладзіслаў Шамко даў паказаньні, якія істотна адрозьніваліся ад занесеных у пратакол. Да таго ж, у судзе былі прагледжаныя відэазапісы з камераў назіраньня.

"Сьведка сьцьвярджаў, што я быў у гэтай самай курцы, што і цяпер, аднак на відэа выдатна бачна, што куртка была іншая. Ён кажа, што быццам бы я быў у грубых чаравіках на тоўстай падэшве, а на відэа – чалавек у красоўках", – распавёў Яўген Контуш. З-за вялікай колькасьці супярэчнасьцяў суддзя Юры Гарбатоўскі вырашыў выклікаць на другое паседжаньне другую сьведку – міліцыянта Юлію Драмлюк, якая быццам бы бачыла ўсё, што адбывалася на ганку, па камеры відэаназіраньня.

На паседжаньні 9 сьнежня сьведка Драмлюк прызналася, што твару чалавека, які вываліў вядро варанай локшыны на ганак, ня бачыла, але па росьце, камплекцыі Яўген Контуш падобны да яго. Суддзя Юры Гарбаноўскі накіраваў матэрыялы справы ў міліцыю на дапрацоўку.

Яўген Контуш, які сьцьвярджае, што ня браў удзелу ў акцыі, падзяліўся сваімі ўражаньнямі аб сёньняшнім паседжаньні: "Другая сьведка аказалася больш сумленная за ўчорашняга, ня стала шчыра хлусіць, засумнявалася. Твару яна ня бачыла, яна бачыла толькі праз камеру відэаназіраньня, але там настолькі дрэнная якасьць, і ўсё рыўкамі, што казаць пра нейкую хаду, целасклад не даводзіцца. Адзінае – па росце быццам бы я падобны да чалавека, які вываліў вядро локшыны. І суддзя зразумеў, што ёсьць вялікі сумнеў, што гэта я".

12 сьнежня а 7-й раніцы міліцыянты прыйшлі да актывіста нацболаў Дзяніса Сахара, які па камплекцыі падобны да Контуша і таго, хто засьняты на відэастужцы. Дзяніса забралі ў Першамайскае РУУС, пратрымалі ў пастарунку да вечара, каля 17-й гадзіны адвезьлі ў суд. Суд Першамайскага раёну сталіцы аштрафаваў аднаго з актывістаў беларускіх нацыянал-бальшавікоў Дзяніса Сахара на 30 базавых велічыняў (1 мільён 50 тысячаў рублёў). Яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве – 3 сьнежня трое маладых людзей вывалілі вядро варанай локшыны на ганак Белтэлерадыёкампаніі і раскідалі ўлёткі ад імя нацболаў.

16 сьнежня суддзя Першамайскага суда сталіцы Юры Гарбатоўскі аштрафаваў аднаго з актывістаў нацыянал-бальшавікоў Яўгена Контуша на 15 базавых велічыняў. 8 і 9 сьнежня гэты ж суддзя ўжо разглядаў справу Контуша. Тады яго спрабавалі абвінаваціць у дробным хуліганстве, быццам бы менавіта Яўген 3 сьнежня вывальваў вядро локшыны на ганак Белтэлерадыёкампаніі. Але справу накіравалі на дапрацоўку ў міліцыю.

15 сьнежня Яўгену Контушу патэлефанавалі з Першамайскага РУУС і запрасілі прыйсьці ў міліцыю, каб закрыць адміністрацыйную справу. Справу па хуліганстве сапраўды закрылі. Але адразу ж завялі новую справу – за дачу ілжывых паказаньняў, бо Яўген Контуш як сьведка адмовіўся называць прозьвішчы ўдзельнікаў акцыі. Не назваў сваіх паплечнікаў Яўген і ў судзе. За што і атрымаў штраф у 15 базавых велічыняў.

"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.